Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

№ 21 (57) 24-30 мая 1996 года

Цана свабодная

ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ

## Падзея тыдня

Прэзідэнт Беларусі прыняў удзел у адбыўшымся ў Маскве дваццатым савеце адзінаццаці кіраўнікоў дзяржаў СНД. Спачатку кіраўнікі раіліся за зачыненымі дзвярыма, а потым аднадушна прынялі заяву ў падтрымку кандыдатуры Барыса Ельцына на маючых адбыцца прэзідэнцкіх выбарах у Расійскай Федэрацыі. І толькі пасля гэтага перайшлі да абмеркавання галоўнага пункта парадку дня– перспектыўнага плана інтэграцыйнага развіцця СНД на 1996-1997 і механізма рэалізацыі закладзеных у яго мерапрыемстваў. Выходзячы з плана, краінам-удзельніцам сустрэчы трэба будзе распрацаваць, узгадніць і прыняць не менш 150 праектаў, у тым ліку і такіх прынцыповых, як Канвенцыя аб каардынацыі дзейнасці на рынку каштоўных папер, Канцэпцыя супрацоўніцтва у абласцях паліўна-энергетычнага комплекса, мадэльныя законы аб транснацыянальных карпарацыях. А міждзяржаўнаму валютнаму камітэту разам з міждзяржаўным банкам і нацыянальнымі фінансавымі структурамі да канца 1997 года неабходна стварыць прававы фундамент для плацежнага і валютнага саюзаў. Вялікі аб'ём работы неабходна выканаць з мэтай збліжэння былых рэспублік СССР.

Расія і Беларусь, імкнучыся да больш хуткага збліжэння, правялі другое пасяджэнне выканкома Садружнасці, дзе былі адобраныя праект рашэння аб прадастаўленні грамадзянам гэтых дзяржаў роўных правоў у галіне медыцынскага абслугоўвання, а таксама пагадненне, якое забяспечвае роўныя правы на працаўладкаванне, аплату працы і прадастаўленне іншых сацыяльна-працоўных гарантый.

У першым падыходзе да аб'яднання пераважае яўная ускладнёнасць і абстрактнасць, а пагадненне паміж Расіяй і Беларуссю, насупраць, надта накіравана да вызначаных груп насельніцтва, і ўсё гэта прыводзіць да думкі: ідэя аб'яднання сёння пакуль адышла на другі план. Таму цалкам натуральна для нашай дзяржавы было б зараз звярнуць увагу на ўмацаванне адносін з іншымі бліжэйшымі суседзямі– дзяржавамі, якія не з'яўляюцца членамі СНД.

*Аляксандр УЛАДЗІН.*

## Скандалы

### Лепш загінуць пад бетонам, чым так жыць

*МАЛАДЗЕЧНА. Зранку, калі дарослыя былі ўжо на рабоце, а большасць школьнікаў другой змены яшчэ гуляла на вуліцы, да дома №119 па Вялікім Гасцінцы пад'ехалі машыны...*

На дзіцячай пляцоўцы, дзе можна пабіць нагой мяч у самаробныя вароты, пагушкацца на арэлях, пабудаваць горад у пясочніцы, у кароткі тэрмін павінен вырасці дом "мясцовага кааператара". Тыя з жыхароў, якія былі дома,– хатнія гаспадыні, "дэкрэтніцы" не далі разгрузіцца машынам і знесці пляцоўку. У няроўным супрацьстаянні (звыш пяцідзесяці жыхароў і дзесяць будаўнікоў) апошнія са шматпавярховым, больш за тыя ж дамы, матам, з'ехалі. Што ім было рабіць, калі маладая жанчына з трохгадовым хворым сынам стала пад бетонную пліту, якая завісла ў паветры пад стралой крана.

Увечары жыхары падпісвалі прэзідэнту ліст, збіралі на штосьці грошы.

Галоўны архітэктар горада паведаміў, што будаўнічая фірма "Барыт" павінна ўзводзіць паціпавярховы жылы дом. Дзеля гэтага ёсць усе ўмовы: невялікая шчыльнасць аб'ектаў, пракладзеныя камунікацыі. Па закону будаўніцтва неабходна ўзгадніць з жыхарамі суседніх дамоў, затым зацвердзіць на выканкоме. Гэтага зроблена не было. Павінна прайсці чарговае пасяджэнне выканкома, на якім рашэнне аб будаўніцтве жылога дома на дзіцячай пляцоўцы будзе разгледжана.

*Васіль САВІЦКІ.*



## На цябе ўся надзея, Андрэйка!

*ВАЛОЖЫНСКІ Р-Н. За апошнія трынаццаць год у вёсцы Няровы ні разу не спраўлялі радзіны. Усё больш, як гэта ні сумна, хавалі яе насельнікаў, сярод якіх пераважная большасць пенсіянераў.*

Нават школу-дзесяцігодку некалькі год таму перанеслі ў суседняе Адамова– цэнтр калгаса. Там шмат маладых сем'яў, да нядаўняга часу будавалася жыллё– ёсць каму хадзіць у школу. З Няроў жа– вёскі у восемдзесят двароў– толькі двое вучняў, і тыя старшакласнікі.

Але наш суровы час, здаецца, пачынае ўносіць свае карэктывы ў жыццё. Адсутнасць жылля і работы ў горадзе ўсё часцей вымушаюць моладзь заставацца ў бацькоўскім доме. Асела некалькі маладых сем'яў і ў Няровах. На радасць родным, ды і ўсім вяскоўцам, у адной з іх– Марыны і Аляксандра Бітапёў– нядаўна нарадзіўся блакітнавокі сынок Андрэйка. Упершыню за трынаццаць гадоў вёска пачула плач новананароджанага жыхара!

З нагоды яго суседка, настаўніца Фаіна Драгун, напісала цэлую паэму. Ёсць у ёй і такія радкі:

З днём нараджэння, чалавек!  
Хай светлым будзе ўвесь твой век.  
Расці на радасць ўсім здаровы.  
Радзіўся ты– жывуць Няровы!

*Анжаліка КРУПЯНЬКОВА.*

## Навіны рэгіёна

### "А ён працуе на вякі..."

*МАЛАДЗЕЧНА. У гарадской бібліятэцы прайшла вечарына, прысвечаная 75-годдзю Міколы Ермаловіча.*

У Маладзечне вядомы гісторык пражыў 45-год. Земляка шчыра віталі шматлікія ўдзельнікі імпрэзы.

Сам юбіляр сказаў, што і надалей што ёсць моцы будзе працаваць на адраджэнне праўдзівай гісторыі роднай Беларусі.

*Алесь ЦАДКО.*

### Маўчаць тэлефоны

*ВАЛОЖЫН. Дзесяткі раённых чыноўнікаў, а таксама адміністрацыя некаторых прадпрыемстваў Валожыншчыы, прыйшоўшы на работу, пачулі ў тэлефонных трубках... цішыню. Такім чынам сувязісты пакаралі сваіх зацятых даўжнікоў за сістэматычную няўплату за тэлефонныя паслугі.*

У чорны спіс на адключэнне тэлефонаў трапілі аддзелы адукацыі і культуры райвыканкома, Івянецкая кандытарская фабрыка, аптова-рознічнае гандлёвае аб'яднанне. Праўда, у гэтую карную акцыю сувязісты ўнеслі элемент гуманнасці: пазбавілі званіць толькі "кабінетчыкаў", а тэлефонную сувязь у школах, дзіцячых садках, вясковых клубах, магазінах пакінулі.

Толькі паўдня работы без тэлефонаў хапіла кіраўніцтву аддзела культуры, каб знайсці грошы і разлічыцца з даўгом. А вось ільнокамбінату, самаму буйному неплацельшчыку, наўрад ці ўдасца хутка знайсці больш за 50 мільёнаў рублёў, каб "ажывіць" свае тэлефоны. Усяго ж запазычанасць прадпрыемстваў, арганізацый, устаноў і гаспадарак раённаму вузлу электрасувязі дасягнула 720 мільёнаў рублёў.

*Таццяна ШАБЛЫКА.*

### Разлічвайце на сябе

*МЯДЗЕЛ. Летась Княгінінскі сельсавет дапамог 543 чалавекам 65 мільёнамі рублёў.*

Па словах Часлава Адамовіча, старшыні выканкома, і цяпер больш чым дастаткова заяў на дапамогу. Асноўная катэгорыя тых, хто мае патрэбу ў дзяржаўных грошах,– мнагадзетныя сем'і. У сям'і Маскалевічаў з вёскі Пашкоўшчына дзевяць чалавек. Жыллёвыя ўмовы патрабуюць паляпшэння. Не ўсе з дарослых могуць працаўладкавацца.

Ў вёсцы ўсе на віду. На тэрыторыі сельсавета калгас "Осаўскі", саўгас "Крывічы", птушкафабрыка "Зара камунізму", базы арганізацый раёна. Але не бяруць на работу тых, з кім у недалёкім часе ўсё роўна прыйдзецца развітацца. Вось і ідуць яны ў сельсавет з заявай аб дапамозе.

Яшчэ адну катэгорыю складаюць састарэлыя людзі. Працаваў чалавек усё жыццё толькі на сваім падворку. Памёр. Навошта калгасу "не свайму" у апошні раз дапамагаць. Сельсавет хавае. Часлаў Адамовіч папярэджвае: "Не спадзявайцеся на дзяржаўныя сродкі, іх абмежаваная колькасць. Разлічва йце перш за ўсё на сябе."

*Васіль САВІЦКІ.*

### Ахвяры агню і гарэлкі

*ВАЛОЖЫН. Смерць пенсіянера Куракевіча з вёскі Заблоцкаўшчына, што пад Ракавам, нечакана пацягнула за сабой яшчэ два пахаванні.*

В. Куракевіч прыехаў на жалобнае мерапрыемства па бацьку з Заспаўя, прыхапіўшы сваю сужыцельніцу Людмілу П. і яе сына. Памінкі перараслі ў вялікую п'янку, пасля якой дарослыя, у тым ліку і 74-гадовая ўдава М. Куракевіч, прылеглі адпачыць. Трохгадовы Дзіма тым часам гуляў з запальнічкай. На думку спецыялістаў, гэта і паслужыла прычынай пажару.

Выратавацца з палаючай хаты ўдалося дваім– В. Куракевічу і яго каханцы. Бабулька ж і хлопчык сталі ахвярамі агню, нягледзячы на ўсе намаганні пажарных.

*Таццяна ШАБЛЫКА.*

У рэдакцыі "РГ" вы можаце па сімвалічнай цане набыць апошні нумар газеты для карыстальнікаў ПЭВМ і проста цікаўных людзей "Mega-inform". Тэл. 53841.

## Адным абзацам

Красавік не прынёс істотных змен у эканоміцы– спад вытворчасці за першыя чатыры месяцы года склаў 2%. Прадпрымаемыя выканаўчай уладай меры тыпу аднаўлення на буйных дзяржаўных прадпрыемствах саветаў працоўных калектываў, аб чым гаварыў прэзідэнт Беларусі пры наведванні ВА "Гарызонт", сведчаць аб узмацненні адміністрацыйна-камандных метадаў кіравання эканомікай, даказаўшых сваю неэфектыўнасць.

З нагоды свята цудадзейнай іконы Божай маці найстаражытнейшага на Беларусі Жыровіцкага манастыра ў яго Успенскім саборы адбылася літургія, затым– хрэсны ход з іконай. Пакланіцца праваслаўнай святыні прыйшлі вернікі з усёй рэспублікі, суседніх дзяржаў. Свята завяршылася малебнам за здароўе народа Беларусі.

У мінулыя выхадныя на радзіме Янкі Купалы было шматлюдна. 18-19 мая ў Вязынцы прайшоў фестываль"Белдзяржуніверсітэт-96", прымеркаваны да 75-годдзя БДУ. Нягледзячы на непагадзь, сотні студэнтаў з вышэйшых навучальных устаноў краіны сабраліся, каб адпачыць на ўлонні прыроды і прыняць удзел у музычных і спартыўных спаборніцтвах, проста павесяліцца.

У гэтыя дні там жа прыхільнікі аздараўленчай сістэмы Парфірыя Іванова з Беларусі і бліжэйшага замежжа правялі сваю штогадовую сустрэчу.

У Ашмянах зарэгістравана 111 нованароджаных, 177 памерлых; 39 шлюбаў і 24 выпадкі іх скасавання.

З камерцыйных банкаў, пастаўленых прэзідэнцкім указам у рамкі валютнага калідора з курсам продажу долара не больш за 13100, апошнія зніклі, бо ніхто не хоча прадаваць. Жадаючым купіць валюту прыходзіцца ісці на рынак– там таксама калідор, толькі межы ў яго іншыя: 14000-16000. Такая разбежка курсаў прымушае гандляроў страхавацца, што прывяло да павышэння рознічных цэнаў на тавары. Мяркуемыя межы валютнага калідора на III квартал складаюць 13000-15500 рублёў.

Нарэшце выйшла першая кніга новай 18-томнай універсальнай "Беларускай энцыклапедыі". Неабходнасць выдання яе прадыктавана часам, зменамі ў жыцці Беларусі, дасягненнямі ў навуцы. Папярэдняе 12-томнае выданне выходзіла на працягу шасці гадоў і ўключала капя 35 тысяч тэрмінаў, але невядома, колькі год зойме гэта ў час нестабільнага эканамічнага становішча краіны. Хочацца спадзявацца, што змест артыкулаў энцыклапедыі будзе аб'ектыўным, без уплыву ідэалагічных перакананняў рэдактараў.

У Ашмянах колькасць перыядычных выданняў, выпісваемых на сям'ю, за апошнія гады зменшылася з 5-6 да 1-2. Рэдка хто атрымлівае выданні трох назваў.

На тэрыторыі дарожна-будаўнічага ўпраўлення № 13 Вілейкі прайшоў мітынг. Два дні рабочыя не прыступалі да работы. Прычыны высвятляюцца.

За першы квартал у Ашмянах прыватызавана 36 кватэр у дамах дзяржаўнага і грамадскага жыллёвага фонду агульнай плошчай 1839 кв. м.

З пачатку новага навучальнага года ў будынку СШ № 2 Вілейкі будзе размешчана гімназія. Некаторыя бацькі вымушаны ўладкоўваць дзяцей у далёкія школы. Узнікла канфліктная сітуацыя.

343 чалавекі зарэгістраваны ў цэнтры занятасці насельніцтва Ашмян. З іх толькі 170 атрымліваюць грашовую дапамогу, сярэдні памер якой 163 тысячы. З пачатку года працаўладкавана 75 беспрацоўных.

# Палячыце зубы ў Маладзечне

| Адрас | Валынца, 14 | Грамадоўская, 47 | Шчорса, 21 |
|---|---|---|---|
| Віды паслуг | Цана | | |
| Выдаленне 1 адз. | 14500 | - | - |
| Прыём урача (кансультацыя) | 11200 | 10000 | 10000 |
| Пратэзаванне (з металакерамікі) | 330000 | 375000 | - |
| — // — з напыленнем | 65000 | 90000 | - |
| Лячэнне пры пульпіце | 20000-60000 | 100000 | 150000-200000 |
| Рэстаўрацыя зуба 1 адз. | - | 350000 | - |
| Выдаленне зубнога каменя | 3250 | 12000 | 5000 |

## Ад яе дабрыні галінкі пускаюць карані

***Хата Ганны Іосіфаўны Шунько выдзяляецца— уся ў кветках. А раней была самая прыгожая на вёсцы. Умелі майстраваць і жаданне было. Уся сям'я гаспадыні звязана з лесам. Бацька— аб'ездчык, брат— майстар на пілараме, муж-шафёр у лясгасе. Ды і сама Ганна Іосіфаўна дастаткова папрацавала на пасадцы дрэў.***

Сёння ёй 65, ужо няма бацькоў і мужа. Гісторыя вёскі без цёткі Анці будзе няпоўнай. Без яе не абыходзіцца ні адно вяселле. Смачней ва ўсёй акрузе не згатуюць. Прыязджаюць з прапановамі са Смаргоні, Маладзечна. А той, хто ходзіць у царкву, частуецца яе просвіркамі. Пячэ гаспадыня адразу на два прыходы: Заскавіцкі і Крэўскі. Жыве Ганна Іосіфаўна з малодшым сынам, гаспадарка немалая: конь, тры каровы, свінні, гусі. За працай першае мая, восьмае сакавіка быццам і не заўважае. А вось сёмуха—любімае свята. Яшчэ накрываецца стол, калі ў хаце госці. Абавязкова чарка і песні. Аднойчы прыязджалі фалькларысты з Мінска, слухалі, запісвалі словы песень, прапанавалі "калектыву" зрабіць пратэжэ на тэлебачанні. "Калектыў"— свае, родныя: Віця, Лёдзя, Тася, Стася, Антон і гаспадыня. Як заспяваюць "А ветер занавесочку тихонько колыхал"— слёзы з вачэй.

У Ганны Іосіфаўны ёсць захапленні: абшывае вяскоўцаў ад трусоў да пуховых коўдраў. Спраўныя і стары "Зінгер", і сучасная "Чайка". Не ведае, якой аддаць перавагу. Займаецца ткацтвам. Сама фарбуе воўну, падбірае колер, прыдумвае ўзоры.

Большую частку жыцця адпрацавала Шунько санітаркай у мясцовай бальніцы. Ад яе прыроднай чуласці, сардэчнасці галінкі ў посудзе з вадою прыжываюцца і пускаюць карані.

***Васіль САВІЦКІ.***

# Весткі з Маладзечна

## Фестывалім

***Гарадскі савет дэпутатаў тут яшчэ не абраны, таму бюджэт на гэты год ды іншыя пытанні зацвярджаў стары яго састаў.***

На сесіі адзначалася, што ўпершыню даходная частка бюджэту ў Маладзечне за мінулы год не выканана. Не схіляе да аптымізму і прагноз на бягучы год.

У гарбальніцы скарачэнне 30 ложкаў. Замест іх уведзена 72 – дзённага наведвання, харчаванне і лекі хворыя мусяць забяспечваць самі.

Настаўнікі адпускныя грошы будуць атрымліваць хутчэй за ўсё, штомесячна.

Затое з 14 па 16 чэрвеня Маладзечна зноў прыме фестываль беларускай песні і паэзіі.

Мясцовыя бабулькі нейкі час не будуць мецъ канкурэнтаў у гандлі тытунём. Справа ў тым, што дзяржгандаль і спажыўкааперацьыя атрымалі дазвол на продаж цыгарэт, але не маюць грошай, каб закупіць іх.

Напрыканцы сесіі выступіў дэпутат ВС П. Краўчанка. Гаворка, у асноўным, ішла пра беларуска-расійскія дачыненні. За стварэнне супольнасці ён галасаваў "адназначна "за".

***Алесь ЦАДКО.***

## 4 гадзіны

***спатрэбіцца дзевяцікласнікам на падрыхтоўку да экзамена па гісторыі Беларусі.***

Так сцвярджае выкладчык маладзечанскай СШ № 2 Валяр'ян Гайдуль. Каб палепшыць падрыхтоўку вучняў да экзамена па гісторыі роднага краю, ён распрацаваў адказы па ўсіх білетах.

Брашура "Беларусь ад сівой мінуўшчыны да сённяшніх дзён", выпушчаная днямі ў Маладзечне, стане добрым памочнікам для дзевяцікласнікаў: не трэба шукаць неабходныя падручнікі, адбіраць пэўныя тэмы, сістэматызаваць іх.

Выкладчыкі гісторыі, іх вучні праявілі вялікую цікавасць да брашуры. Ёсць просьбы дапамагчы з набыццём і з суседніх гарадоў.

***Аддзел інфармацыі.***

## На ўзбраенні - балалайкі

***Дзевяць музычных калектываў едуць на гастролі ў Германію, Чэхію, Францыю. Выкладчыкі, студэнты, выпускнікі музычных устаноў імкнуцца зарабіць у час адпускоў і канікул. Фальклорны ансамбль "Харашуха" (музшкола) запрошаны ў Германію і выступіць ў канцэртных залах, на пляцоўках. Большасць музыкантаў паставіць на вуліцах шапку. Калі пашанцуе, за два тыдні заробіць ад 300 да 500 долараў ЗША. У Германіі слухачы кідаюць марку, дзве.***

Аднойчы састарэлая жанчына нас аддзякавала старымі маркамі. Усё залежыць, як успрымаецца м е л о д ы я . Шасцідзесяцігадовы ветэран з Аргенціны плакаў пад "Карабейнікаў" і ўспамінаў сваю рускую каханку, якая спявала пра "Каробачку".

***Шчодра разлічыўся Пётр ЦАПЛЫГІН, музыкант.***

## Хто "перамоўжа"?

***Мясцовае ПТВ-135 некаторы час было пад пагрозай даволі радыкальнай рэарганізацыі.***

Адны сцвярджаюць, што вучылішча нехта захацеў "зжыць са свету", іншыя жывуць у новым мікраараёне №6, таму штодня назіраюць, як дзятва крочыць па школах: да бліжэйшай— паўгадзіны пехатой.

Абаронцы вуылішча акцэнтуюць увагу на тым, што гэта адзіная ў краіне навучальная ўстанова, якая рыхтуе пекараў. За адным разам шкадуюць яе навучэнцаў, якія, маўляў, вымушаны былі б пайсці на вуліцу.

Довады важкія, хаця і мікраараён без школы— хаця б пачатковай— нармальна жыць не можа. Добрыя прапановы, што задаволілі б абодва бакі, ёсць у былога намесніка дырэктара вучылішча Л. Богдана, іншых спецыялістаў.

Днямі Мінскім аблвыканкомам прынята рашэнне пакінуць усё на сваіх месцах.

***Аддзел інфармацыі.***

## Дзявочая краса

***У вучаніцы СШ № 6 Марыны Гарбатковай доўгія валасы, амаль да калена.***

Але гэтага было недастаткова, каб перамагчы ў конкурсе "Каса–дзявочая краса". З 16 канкурсантак пашчасціла Ані, наведвальніцы дзіцячага садка "Сонейка". Яна спявала, танцавала лепш за іншых.

У выніку— першае масца і аўдыёмагнітафон.

***Аддзел інфармацыі.***

## 1. Без санкцыі пракурора пад грыфам "Сакрэтна"

# "І быў у лапці абуты..."

Заходняя Беларусь. 1940 год. Неўзабаве пачнецца Вялікая Айчынная вайна, а тут пасля "вызваленчага" паходу Чырвонай Арміі ўсё яшчэ ваююць з тымі, каго год назад "вызвалілі" ад белапольскага буржуазнага прыгнёту. Бяруць усіх падазроных, саджаюць у турмы нават тых, хто толькі што выйшаў з польскіх турмаў, каго адтуль вызвалілі Саветы. Турмы зноў бітком набіваюцца людзьмі, схопленымі на ледзь пазначанай дзяржаўнай мяжы. Арыштоўваюць за тое, што не так зірнуў на прадстаўніка новай улады, не тое сказаў на кірмашы ці на вуліцы. Пайшоў, напрыклад, чалавек у госці ці ў краму купіць запалак і ўжо дамоў не вярнуўся– трапіў у турму. Без прычыны і надоўга. Нават зусім. Калі арыштаваны атарапела і здзіўлена пытаўся ў міліцыянера: "За што?", той флегматычна, абыякава адказваў: "Там разбяруцца..." І "разбіраліся".

Вось перада мной на стале ляжыць пракурорская папка з філіяла Мінскага абласнога архіва, які знаходзіцца ў Маладзечне. Філіял, дарэчы, займае цяпер будынак былой турмы, і, нібы знарок, судовыя дакументы знаходзяцца ў халодных сутарэннях былых камер, сцены якіх яшчэ памятаюць кроў і слёзы закатаваных вязняў.

Развязваю зашморгнутую вузельчыкам-пятлёю тугую папку, на якой значыцца машынапісны надпіс: "Вилейская областная прокуратура БССР, гор. Вілейка. Акты проверки работы судов, тюрем, облпрокуроров по спецделам. Списки лиц, задержанных погранотрядами, находящихся в тюрьмах и др. Начато: 20.02.1940. Окончено: 03.12.1940.

Перагортваю пажоўклыя ад часу лісты. Мусіць, нішто так яскрава не сведчыць аб тым, як тады разбіраліся з "ворагамі народа" сталіністы, чым гэтыя паперы пад змоўніцкім грыфам "Сакрэтна".

7 лютага 1940 года пракурор Маладзечанскага раёна Гваздовіч правяраў турму горада Маладзечна і выявіў, што тут 5 чалавек пакутуюць без пастановы і санкцыі пракурора на арышт– арыштаваны без усялякіх падстаў. Гваздовіч прапанаваў начальніку турмы Якаўлеву "дать указание личному составу тюрьмы о том, что по мотивированному постановлению с утверждением РОМ НКВД можно содержать арестованных не свыше 24 часов, а после требовать постановление на арест с санкцией прокурора или задержанного из-под стражи немедленно освободить".

Гэта адзіныя лагічныя словы аб прапануемых юрыдычных дзеяннях, якія трапілі мне на вочы і былі зразумелыя з усёй таўшчэзнай папкі перапіскі карных устаноў. Але далейшае знаёмства з афіцыйнымі паперамі мяне пераканала: менавіта гэтая простая ісціна, што трымаць чалавека пад арыштам без абвінавачвання, успрымалася логікай пракурораў, начальнікаў турмаў і іншымі карнымі асобамі як нешта зусім неверагоднае, немагчымае.

Вось акт праверкі ад 15.02.1940 года пракурорамі спецаддзела Вілейскай абласной пракуратуры Айзенштадтам і Ампілавым турмы горада Вілейкі. Пры гэтым прысутнічалі начальнік 1-га спецаддзела НКУС Вілейскай вобласці Аствацтуран і начальнік турмы Колесаў.

Выяўлена наступнае: "Главный корпус тюрьмы состоит из 41 камеры. Лимит установлен на 350 человек, а содержится на день проверки 827 человек. Из них: числится за УНКВД 808 человек, за органами милиции– 8, за судами– 6, за прокуратурой– 4, осуждённых– 1 человек (!). Содержится без оформления и санкции прокурора, считая с сентября месяца 1939 года, 260 (!) человек, на которых личных дел в канцеляриях тюрьмы не имеется. Кроме этого 326 человек содержится с истекшим сроком содержания под стражей без санкции прокуроров. Выявлено, что гражданин Скуратович Адам Павлович с 28 октября 1939 года содержится и доставлен в тюрьму по телефонному распоряжению бывшего начальника опергруппы НКВД Вилейского уезда тов. Козмона. В 12 камере главного корпуса тюрьмы выявлено, что четыре человека содержатся под стражей с 20.12.1939 года, не получали нижнего белья, не проходили санобработку. В женских камерах 30, 32 находятся больные туберкулёзом Разднерова Ванда Петровна (арестована 5.11.1939 г.) и Адвинсечак Анна Валентиновна (арестована 30.12.1939 г.). Тюремный врач Шварц до сего времени не установил диагноз на предмет изолирования. В камерах 30, 32, 37 имеется вшивость. В камере 30 находится заключённая Дроздова Анна Викентьевна, имеющая семимесячную беременность..."

Айзенштадт і Ампілаў не робяць ніякіх захадаў, каб хоць трохі аблегчыць бядотны лёс вязняў, толькі прапануюць начальніку турмы без санкцый пракурораў арыштаваных у вязніцу не прымаць. Яны добрасумленна складаюць акты праверкі турмаў, выкрываюць недахопы, даюць прапановы іх начальнікам... І не больш. Але ж вязні трапляюць сюды з камер папярэдняга зняволення, як, напрыклад, з КПЗ 83 пагранатрада. Той жа Айзенштадт пасля агляду гэтай кутузкі піша пракурору БССР Вятрову і Наркому ўнутраных спраў БССР Цанаве: "Арестованные в КПЗ 83 погранотряда содержатся до полутора месяцев вместо 10 дней не по вине начальника погранотряда тов. Малыка, а потому, что тюрьмы не принимают арестованных вследствие перегрузки. Нередко бывают и случаи, что начальники РО НКВД не принимают следственные дела для дальнейшего следствия, а в результате грубо нарушаются сроки ведения следствия, поэтому просьба принять ссответствующие меры к разгрузке арестованных в КПЗ 83 и урегулировать вопрос в отношении приёма следственных дел от погранотряда..."

Адказаў на гэтыя лісты, безумоўна, не было. Вышэйшая ўлада маўчыць. Шматлікія скаргі вышэйшаму начальству сведчаць аб тым, што тэлеграмы і пісьмы пад грыфам "Совершенно секретно" пасылаліся ў нікуды. Там яны толькі рэгістраваліся і падшываліся ў такія ж папкі...

Пракуроры і намеснік займаліся бязглуздым ліставаннем, ад якога не было ніякай карысці, хлусілі начальнікам турмаў, а тыя– адзін аднаму:

"Лично прокурору Вилейской области по спецотделам тов. Айзенштадту. Ставлю вас в известность, что 24 июля с. г. прибыли из Глубокской тюрьмы заключённые в количестве 11 человек по назначению в Вилейскую тюрьму, на которых срок санкций на право содержания под стражей истёк. Мною данный контингент з/к в тюрьму не принят и направлен в УНКВД Вилейской области для полного оформления личных дел. В результате чего зам. начальника УНКВД Радченко обязался к вечеру оформить личные дела на з/к, мотивируя тем, что сейчас оформить личные дела на заключённых невозможно физически. Мною контингент был принят. До сих пор зам. начальника УНКВД тов. Радченко личные дела на з/к не оформил. Довожу до Вашего сведения. Начальник тюрьмы НКВД БССР г. Вилейка Колесов."

А вось і яшчэ адна папера, узор бюракратычна-злачыннай перапіскі пракурора са сваімі калегамі па генацыду, здзеку над беспадстаўна арыштаванымі. З яе вынікае, што 28 зняволеных, якіх начальнік РАНКУС у Браславе арыштаваў і трымаў пад вартай без пастановы і санкцый пракурора, перакідвалі з адной турмы ў другую. І ў кожнай ад іх хацелі як найхутчэй пазбавіцца. І ніхто не браў на сябе адказнасці іх вызваліць або нават сфабрыкаваць хоць якое абвінавачванне. Таму так званыя следчыя справы, высмактаныя з пальца, віселі ў паветры. А пракуроры перакідваліся між сабою "сакрэтнымі" паперамі:

"Сов. секретно. Прокурору Вілейской области.

На основании распоряжения военного прокурора 3-го кавалерийского корпуса г. Лида от 23.01.40 г. направляю наблюдательные производства по делам арестованных НКВД и погранотрядамі на территории Западной Белоруссии по Ошмянскому уезду для дальнейшего наблюдения за следствием. Список на 82 человека прилагается.

Помощник военного прокурора 3-го н. к. 7х. д. Хейфец".

Калі б я далей працягваў знаёміць чытачоў з бязглуздай і злачыннай перапіскай пракурораў-сталіністаў усіх узроўняў, дык, пэўна, мне не хапіла б жыцця. Ад папер з гэтай перапіскай распухла папка. Затое папкі з судовымі справамі беспадстаўна асуджаных людзей утрымліваюць у сабе ўсяго адзін шматок паперы: пастановы суда аб тэрмінах зняволення. А яны былі доўгімі– ад 5 да 25 гадоў. І, трапіўшы ў берыеўскія цянёты, заходнебеларускі жыхар, арыштаваны без санкцый пракурора, ужо аніяк не мог з іх выблытацца, як бы ён гэтага ні хацеў.

Былі, праўда, і "выключэнні": так, напрыклад, беспадстаўна арыштаваныя і асуджаныя на вялікія тэрміны зняволення Маладзечанскім народным судом Сігізмунд Браніслававіч Рэкс і Браніслаў Іванавіч Сялкоўскі не паспелі пасля прыгавору трапіць у Сібір– яны памерлі ў турме.

***Мікола КАПЫЛОВІЧ.***

***(Працяг будзе).***

